# СВАБОДА

8 лютага 1995 г.

№6

Кошт 200 рублёў

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 60 000



Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56

Тэл./факс 36-24-41


## Страйкоўцы патрабуюць міністра на завод

**У панядзелак 6 студзеня на Менскім заводзе аўтаматычных ліній а 7-й гадзіне раніцы пачаўся стыхійны страйк.**

Прыкладна тры тысячы рабочых сабраліся ў цэнтральным зборачным цэху і наладзілі сход. Былі вылучаныя асноўныя патрабаваньні — аб павышэньні заработнай платы (сёньня тут атрымліваюць у сярэднім 300 тыс. рублёў у месяц) і паляпшэньні умоў працы. Рабочыя заявілі, што згодныя весьці перамовы толькі зь міністрам прамысловасьці Куранковым і прадстаўніком Кабінэту міністраў.

Нагадаем, што менавіта завод аўтаматычных ліній адным зь першых забаставаў у час красавіцкіх страйкаў 1991 г.

Яўген АЛАДКА

## Лукашэнку ахоўвае чачэнец

**Інфармацыю пра гэтага чалавека атрымаць афіцыйным чынам немагчыма. Аднак нам вядома, што ў службе аховы прэзыдэнта чачэнец Махмуд займае пасаду начальніка аддзелу па барацьбе з тэрарызмам.**

Паводле нашых зьвестак, ён зьяўляецца сваяком Руслана Хасбулатава. Яны разам абараняліся ў Белым доме, пасьля чаго Махмуд вымушаны быў хавацца ад расейскіх уладаў. Калі ён зьявіўся ў Беларусі і хто яго рэкамэндаваў Лукашэнку — нам высьветліць не ўдалося. З маскоўскіх крыніцаў СВАБОДЗЕ паведамілі, што раней гэты чалавек служыў падпалкоўнікам у КГБ СССР, потым — у ФСК Расеі. Але зразумела, што пасьля падзеяў у Белым доме на ягонай кар'еры быў пастаўлены крыж.

А вось у нас чалавек з такім паслужным сьпісам і без беларускага грамадзянства прыйшоўся дарэчы ажно самому прэзыдэнту. Да таго ж будзе займацца не абы чым, а "барацьбой з тэрарызмам"!

І яшчэ адна цікавая дэталь пра Управу аховы прэзыдэнта. Усе кіраўнікі гэтай структуры (начальнік і намесьнікі) у свой час разам служылі ў КГБ Узбэкістана. А карымаўская дзяржбясьпека, як вядома, мала чым адрозьніваецца ад сумнавядомай сталінскай.

Відаць, Лукашэнку спадабаўся "баявы атрад" Карымава, і ён вырашыў стварыць тое самае ў нас. Але тут яшчэ чачэнец...

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ



## Прэзыдэнт любіць хадзіць па краі абрыву

Калі-небудзь ён зваліцца

Бадай, толькі ў нашай краіне кардынальныя і лёсавызначальныя для дзяржавы рашэньні могуць прымацца такім арыгінальным чынам: у самы апошні момант, з рызыкай страты ўсёй шматмесячнай працы.

Найбольш яскрава гэтая якасьць цяперашніх беларускіх уладаў праявілася ў гісторыі з атрыманьнем крэдыту ад Міжнароднага валютнага фонду. Яшчэ ў панядзелак 30 студзеня літаральна да 16-й гадзіны не было дакладна вядома, ці ўключыць МВФ беларускае пытаньне ў парадак дня паседжаньня. Таму ўсе тэлефоны ў Кабінэце міністраў адказвалі прадстаўнікам прэсы, што ніякіх зьменаў не адбылося і ніякай пастановы аб павышэньні тарыфаў на камунальныя паслугі ніхто ня бачыў. Натуральна, у журналістаў былі ўсе падставы заявіць, што раз няма павышэньня камунальных плацяжоў, значыць ня будзе і крэдыту ад МФВ.

Гэтую ўпэўненасьць толькі ўмацаваў сам А.Лукашэнка. Выступаючы ў той жа панядзелак увечары у Міністэрстве унутраных справаў, ён зноў накінуўся на МВФ, маўляў, чаму фонд дыктуе маладой сувэрэннай дзяржаве свае ўмовы: адпусьціце цэны — дадзім крэдыты. Дзіўна, але, выказваючы свае несур'ёзныя прэтэнзіі, Лукашэнка ведаў, што ў гэтыя самыя хвіліны ідзе паседжаньне рады дырэктараў фонду. Калі б інфармацыйныя паведамленьні аб чарговых выказваньнях Лукашэнкі прыйшлі трошкі раней, Беларусь сапраўды магла б застацца бяз грошай МВФ.

А беларускім журналістам даводзіцца прывыкаць да незвычайных умоваў працы. Бо калі ў іншай краіне прэзыдэнт кажа, што не павысіць цэны на камунальныя паслугі да 1 траўня — значыць так яно і будзе. Але толькі ня ў нас. Трэба прывыкаць, што "праўда — гэта хлусьня".

В.П.

## Ангельцы купілі частку "Планеты"

**Ангельская фірма Maltsword Ltd. набыла пакет акцыяў менскага гатэля "Планета", заплаціўшы за іх 8,5 млрд. рублёў, якія пойдуць у бюджэт.**

Фірма зьбіраецца ўкласьці ў разьвіцьцё "Планеты" 2,2 млн. даляраў на працягу гэтага і наступнага года. У пэрспэктыве Maltsword Ltd. мае намер пашырыць свой удзел у беларускім гатэльным бізнэсе, пабудаваўшы ў нас цэлую сетку сучасных гатэляў.

У акцыяваньні "Планеты" могуць узяць удзел і грамадзяне Беларусі — 46,9% акцыяў гатэля зарэзэрваваныя для продажу за іменныя прыватызацыйныя чэкі юрыдычным і фізычным асобам.

БелаПАН

## Інтэрпол дапамог Івану Каратчэню

**У менскай штаб-кватэры СНД сьвята: знайшоўся "мэрсэдэс", які быў скрадзены дзесяць месяцаў таму.**

У свой час СВАБОДА паведамляла пра гэтае здарэньне. Адбылося гэта ў варшаўскім аэрапорце, дзе кіроўца лімузына ўсяго на тры хвіліны пакінуў машыну без нагляду і — яе і сьледу ня стала.

Інтэрпол затрымаў скрадзены аўтамабіль ажно ў Славаччыне (на ім ужо стаялі галяндзкія нумары). Днямі "мэрсэдэс" вярнуўся ў гараж Выканаўчага сакратарыяту СНД.

Гэты лімузын адметны яшчэ тым, што на ім езьдзіў па Менску Барыс Ельцын, калі прыяжджаў на сустрэчы лідараў СНД. Цяпер (падчас маючага адбыцца візыту ў Менск) расейскі прэзыдэнт зможа зноў пакарыстацца гэтым аўтамабілем. Такім чынам, дзякуючы Інтэрполу шэф Выканаўчага сакратарыяту СНД Іван Каратчэня можа сьмела глядзець у вочы свайму расейскаму босу.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ




"Расейская армія, ідзі дамоў!" — з такімі плякатамі сустракалі старшыню расейскай Думы Івана Рыбкіна ў Менску актывісты беларускіх дэмакратычных арганізацыяў

## Палякі любяць габрэяў больш за расейцаў

**Варшаўскі дасьледчы інстытут *Demoskop* на замову *American Jewish Committee* (Амэрыканскага габрэйскага камітэту) напрыканцы мінулага года вывучаў грамадзкую думку па праблеме польска-габрэйскіх дачыненьняў.**

Адно з пытаньняў — *каго б Вы не хацелі мець за суседа?* 65% не хочуць цыганоў, 61% — румынаў, 55% — украінцаў, 51% — арабаў, 43% — расейцаў, 38% — нэграў, 36% — беларусаў, 30% — габрэяў, 26% — немцаў.

Было і пытаньне, *хто найбольш пацярпеў ад гітлераўцаў.* 28% назвалі палякаў і габрэяў, 28% — габрэяў, 26% — палякаў. Толькі 1% згадалі расейцаў, хоць яны мелі падчас вайны найбольшыя страты.

Паводле газэты *Polityka*

# Прэзыдэнт слухае дэпутатаў праз вушы КДБ і запрашае вэтэранаў на вайну

**У Доме ўраду 2 лютага А.Лукашэнка сустрэўся з прадстаўнікамі вэтэранскіх арганізацыяў. У асноўным гэта былі адстаўнікі Савецкай арміі, КДБ і МУС.**

Спазьніўшыся хвілін на 40, прэзыдэнт пачаў прамову перад сівымі дзядзькамі надта рашуча, раз-пораз папярэджваючы: *"Опять же не для прессы говорю"*. Таму самыя цікавыя выказваньні прэзыдэнта так і не патрапілі ў СМІ.

Між тым, прэзыдэнт сказаў шмат цікавага. Напрыклад, А.Лукашэнка грунтоўна распавёў пра свае асабістыя заслугі ў тым, што народ беларускі не пакутуе ад халадэчы ў хатах, пахваліўся, што, маўляў, у апошнія 5 месяцаў ён не ўключыў друкарскі "грашовы станок" і што ў студзені спаду прамысловасьці не было, а таксама паабяцаў, што ў лютым (згодна зь ягоным загадам) інфляцыі ня будзе.

Затое будзе рашучая барацьба з ворагамі люду беларускага. Дзе ж яны? Да прыкладу, прэзыдэнт заявіў, што *"разного рода жулье сконцентрировалось в инвестиционных фондах"*. Але больш за ўсіх замінае прэзыдэнту на шляху барацьбы за народнае шчасьце Вярхоўны Савет, які — бач ты! — выдае нейкія пастановы і законы. *"Я обложен этими законами"*, — паскардзіўся прэзыдэнт вэтэранам КПСС, але тут жа заявіў: *"Я не посмотрю ни на законы, ни на что"*. А ўвогуле будынак былога ЦК КПБ на вуліцы К.Маркса, дзе зараз месьціцца Вярхоўны Савет, А.Лукашэнка назваў контррэвалюцыйным штабам. Акрамя таго, прэзыдэнт упэўнена сказаў, што шмат хто з дэпутатаў атрымлівае па 1500 даляраў у месяц зь нейкіх падазроных крыніцаў (зь якіх — не сказаў).

На гэтай сустрэчы Лукашэнка таксама паведаміў, што зьвесткі аб справах дэпутатаў ён атрымлівае праз апэратыўныя службы КДБ (цытуем дыктафонны запіс): *"Получаю от Комитета государственной безопасности сводку... Идет доклад оперативный, я фамилии не буду называть... Вот зафиксирован разговор: «Вы там подготовьтесь: тридцатого будем бомбить его» — то есть меня... Это коммерсанты разговаривают с депутатами... И все фамилии, которые были там названы* (у дакладзе КДБ — *Рэд.*), *они и начали в Верховном Совете..."*

Ці не становіцца ў прэзыдэнта нормай — гэтак "слухаць" апанэнтаў з Вярхоўнага Савету, а потым, не саромеючыся, цытаваць паведамленьні КДБ? На каго ж тады абапіраецца А.Лукашэнка — на чэкістаў сёньняшніх ды ўчарашніх?..

А потым прэзыдэнт заявіў пра свае намеры: трэба ўвесну правесьці рэфэрэндум аб дзяржаўным уладкаваньні Беларусі, аб гербе і сьцягу, а потым — выбары ў ВС (калі яны наагул спатрэбяцца). І на заканчэньне А.Лукашэнка заклікаў: *"Ветеранам еще надо выиграть свою войну. Давайте выиграем ее вместе"*.

**Віктар ТАМАШЭВІЧ**



*Кандрат Крапіва*

## Дыплямаваны баран

Байка

*У адным сяле (няважна — дзе)*
*Хадзіў Баран у чарадзе.*
*Разумных бараноў наогул жа нямнога,*
*А гэты дык дурней дурнога —*
*Не пазнае сваіх варот:*
*Відаць, што галава слабая.*
*А лоб дык вось наадварот —*
*Такога не страчаў ніколі лба я:*
*Калі няма разумніка другога,*
*Пабіцца каб удвух,*
*Дык ён разгоніцца ды ў сьцену — бух!*
*У іншага дык выскачыў бы й дух,*
*А ён — нічога.*
*І вось за дурасьць гэту*
*Яго вучоным раз празвалі нейк на сьмех,*
*А каб двара не перабег,*
*На шыю прывязалі мету.*
*— Вось, — кажуць, — і дыплём табе.*
*Што гэта за "дыплём", Баран — ні "мя", ні "бэ",*
*Аднак жа перад кошкаю пачаў ён ганарыцца:*
*— А што ж ты думала, сястрыца!*
*Хіба мне пахваліцца няма чым?*
*Дыплём я заслужыў, здаецца ж, галавою,*
*І не раўнуйся ты са мною.*
*Аб гэтым лепей памаўчы, —*
*Сказала яму кошка. —*
*Каб быў ты разумнейшы трошку*
*Ды розумам раскінуць мог авечым,*
*То ўбачыў бы, што ганарыцца нечым,*
*Бо заслужыў ты свой дыплём*
*Не галавой, а лбом.*

*Другі баран — ні "бэ", ні "мя",*
*А любіць гучнае імя.*

# Лукашэнка знайшоў апору

**На паседжаньні калегіі Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі, якое адбылося 30 студзеня, прэзыдэнт Лукашэнка заявіў, што ён ва ўсім будзе абапірацца на МУС, КДБ і армію.**

У сваім выступе прэзыдэнт эмацыйна расказаў прысутным аб злачыннасьці ў Беларусі. Лукашэнка паведаміў, што ў хуткім часе ўбачыць сьвет ягоны ўказ, дзе будзе прапанаваны шэраг мераў, якія пасадзейнічаюць выкараненьню эканамічнай злачыннасьці. Сярод першачарговых мераў — наступальна-прафіляктычныя апэрацыі ў сфэры эканомікі, абарона нацыянальнай валюты, забарона незаконнага вывазу каштоўнай сыравіны і тавараў зь Беларусі. На думку прэзыдэнта, парадак павінна навесьці МУС, КДБ і часткова Міністэрства абароны. *"Чакаў народ парадку — што атрымаў?"* — пытаўся Аляксандар Лукашэнка.

Як заявіў прэзыдэнт, з 22 старонак дакладу аб злачыннасьці ў Беларусі, які падрыхтаваў міністар унутраных справаў Юрый Захаранка, ён нічога не зразумеў, хоць і прачытаў яго двойчы. Апэлюючы да міністра, А.Лукашэнка заявіў, што "*накаты пад ідэю паліцэйскай дзяржавы не маюць пад сабою падставы*", а таксама падкрэсьліў: *"Я гатовы падтрымаць МУС, КДБ і войска. Яны атрымаюць усё неабходнае, бо яны — апора прэзыдэнта ва ўсіх сфэрах. Ня будзе хапаць — будзе фінансаваньне як з унутраных рэзэрваў, так і зь дзяржаўнай казны. Аддадзім на месцы, у раённыя і абласныя аддзяленьні міліцыі ўсе інамаркі, якія Кебіч некалі купіў для ўраду"*, — адзначыў прэзыдэнт.

Са словаў Аляксандра Лукашэнкі, ён быў надзвычай заклапочаны тым, што МУС і КДБ не займаюцца праблемамі падзеньня курсу нацыянальнай валюты. *"Адсюль нашая галеча. Калі МУС запрацуе на поўную сілу і будзе выконваць распараджэньні ў галіне эканомікі, то будзе зарабляць ня горш, чым у лепшыя часы"*. Выказаў незадавальненьне прэзыдэнт і адсутнасьцю парадку ў сродках масавай інфармацыі. *"МУС і КДБ павінны вывучыць сытуацыю ў СМІ і паўплываць на яе"*.

Адносна Міжнароднага валютнага фонду прэзыдэнт выказаўся адназначна адмоўна. *"МВФ будзе дыктаваць умовы маладой сувэрэннай дзяржаве?!"* — патэтычна ўсклікаў Аляксандар Лукашэнка.

Гаворачы пра злачыннасьць, прэзыдэнт адзначыў, што яна яго палохае. Рост злачыннасьці ў Беларусі большы, чым у Расеі, на Украіне і ў Прыбалтыцы: *"Я гатовы сам надзець бронежылет і пайсьці з вамі"*, — паабяцаў прысутным прэзыдэнт. Падкрэсьліўшы, што ў Беларусі няма нармальнай прававой базы для барацьбы са злачыннасьцю, прэзыдэнт абвінаваціў у гэтым Вярхоўны Савет: *"90% дэпутатаў Вярхоўнага Савету кормяцца з камэрцыйных структураў, і злачыннасьць ім на руку"*. Што датычыць дачыненьняў з камэрцыйнымі структурамі, Аляксандар Лукашэнка заўважыў: *"Калі банкі ня зоймуць належнай пазыцыі ў адносінах да нацыянальнай бясьпекі, прыму меры з дапамогай МУС. Прыватная ўласнасьць будзе нацыяналізавацца неадкладна. Чакаю ўказу па барацьбе са злоўжываньнямі пры будаўніцтве асабнякоў і катэджаў. Калі ня будзе весьціся праца ў гэтым накірунку, будуць "оргвыводы"*, — паабяцаў прэзыдэнт.

*СІМ*

# Віцэ-прэм'ер заступіўся за прэзыдэнта

**Старшыня прэзыдэнцкага камітэту па барацьбе з карупцыяй Юрый Малумаў запатрабаваў адстаўкі прэзыдэнта дзяржаўнага канцэрну "Белнафтапрадукт" сп.Лойкі.**

Рэч у тым, што ў жніўні 1994г. сп.Лойка падпісаў кантракт на пастаўку нафты маскоўскай фірмай "Парадига". Атрымаўшы каля 4 млрд. рублёў, расейскія камэрсанты толькі праз чатыры месяцы пачалі пастаўляць нафту на Беларусь. Іншымі словамі, "Белнафтапрадукт" фактычна даў маскоўскай фірме беспрацэнтны крэдыт.

Дарэчы, пра гэты факт згадваў у сваім дакладзе і дэпутат Сяргей Антончык. Аднак А.Лукашэнка, якому сп.Малумаў прадаставіў заключэньне аб немэтазгоднасьці далейшага знаходжаньня сп.Лойкі на пасадзе прэзыдэнта дзяржаўнага канцэрну, накіраваў старшыню антыкарупцыйнага камітэту да віцэ-прэм'ера Валерыя Кокарава, які курыруе пытаньні паліва і энэргетыкі. В.Кокараў не пагадзіўся са сп.Малумавым і ня даў згоды на вызваленьне сп.Лойкі ад пасады прэзыдэнта канцэрну "Белнафтапрадукт".

*СІМ*

**На выданьне СВАБОДЫ ахвяравалі:**
П.Ламанос *(Баранавіцкі раён)* -- 10 000 руб.
Прыватная фірма *(Беларусь)* -- 300 USD
**Дзякуем!**

# Беларусь — паліцэйская дзяржава?

**Беларусь мае ўсе шанцы ператварыцца ў бліжэйшы час у сапраўдную паліцэйскую дзяржаву. Такі прагноз зрабіла незалежная аналітычная група ў выніку дасьледаваньняў грамадзкай думкі ў Беларусі за апошнія паўгода, а таксама на падставе аналізу палітычнай сытуацыі за апошнія пяць гадоў.**

Як сьведчаць вынікі дасьледаваньняў, у лютым—сакавіку гэтага года цалкам верагодны магутны палітычны ўдар з боку кіраўнічага рэжыму па Беларускім Народным Фронце, чый рэйтынг імкліва расьце. Гэта прывядзе да актывізацыі партый камуністычнага накірунку. Сэрыя палітычных скандалаў рэзка пойдзе на спад у канцы сакавіка — пачатку красавіка, пасля чаго трэба чакаць далейшага паглыбленьня пэсымістычных тэндэнцый сярод выбаршчыкаў. На выбарах і ў першым, і ў другім туры зь вялікім адрывам пераможуць БНФ і так званыя "левыя" партыі, аднак вынікі выбараў, магчыма, ня будуць зацьверджаныя прэзыдэнтам, які заявіць, што ў галасаваньні не ўзялі ўдзел неабходныя 50% выбаршчыкаў. Відавочна, гэта прывядзе да фактычнага адзінаўладзьдзя прэзыдэнта і ягонай "вэртыкалі".

Адначасова палітычныя падзеі і дрэнная сытуацыя ў эканоміцы ўзмоцняць канфрантацыю паміж тымі, хто падтрымлівае кіраўнічую адміністрацыю, і апазыцыйнымі сіламі. Усё гэта можа завершыцца канфліктам у пачатку другой паловы года, прычым нельга выключыць прымяненьне сілы з боку прэзыдэнта і як вынік — палітычную ізаляцыю краіны. Да канца года, мяркуюць дасьледчыкі, Беларусь набудзе ўсе рысы сапраўднай паліцэйскай дзяржавы, рэзка ўзрасьце пагроза страты незалежнасьці.

*БелаПАН*

# Прэзыдэнт зьняў кіраўнікоў выведкі і контрвыведкі

**Паводле зьвестак з прэзыдэнцкай адміністрацыі, 2 лютага Аляксандар Лукашэнка падпісаў сакрэтныя ўказы аб вызваленьні ад пасадаў начальнікаў упраў выведкі і контрвыведкі КДБ Сяргея Сіманава і Аляксандра Шабусава.**

Пакуль дакладна невядома, чым кіраваўся А.Лукашэнка, даючы адстаўку менавіта гэтым высокапастаўленым супрацоўнікам дзяржаўнай бясьпекі. Магчыма, такія дзеяньні зьяўляюцца заканамерным разьвіцьцём сытуацыі пасьля вядомай заявы прэзыдэнта на апошняй калегіі Камітэту дзяржаўнай бясьпекі аб недаверы да цэнтральнага апарату КДБ.

*СІМ*

# Пісталеты для эстэтаў

**Лукашэнка ўвесь час скардзіцца, што ў бюджэце не хапае грошай, а тым часам велізарныя сродкі выдаткоўваюцца на розныя сумнеўныя справы.**

Характэрны прыклад — Рэспубліканскі цэнтар эстэтычнага выхаваньня моладзі, які знаходзіцца ў сталіцы. Тут працуе група адстаўных палкоўнікаў, якія фактычна ператварылі дзіцячую ўстанову ў філію Саюзу афіцэраў. Ім, відаць, не хапае толькі пісталетаў. Таму нядаўна генэральны дырэктар цэнтру Уладзімер Іскрык накіраваў міністру ўнутраных справаў Ю.Захаранку просьбу "перадаць цэнтру тры пісталеты (рэвальвэры)". Зброя спатрэбілася нібыта для аховы "матар'яльных і культурных каштоўнасьцяў". Безумоўна, стралкі тут ёсьць, але ахоўваць няма чаго. Хіба што сталы ды крэслы палкоўнікаў. А можа, яны зьбіраюцца зь пісталетамі ў руках сьцерагчы партрэт прэзыдэнта Лукашэнкі, які вісіць у прыёмным пакоі дырэктара цэнтру.

Дарэчы, гэты партрэт тут лічыцца вялікай каштоўнасьцю. Дырэктар Іскрык перакананы, што прэзыдэнцкі партрэт трэба надрукаваць тысячамі экзэмпляраў, "каб грамадзяне і службовыя асобы мелі магчымасьць набыць партрэты для публічнага ўшанаваньня". Такую прапанову Ул.Іскрык даслаў Лукашэнку, падкрэсьліўшы, што партрэт "стане значным сродкам у выхаваньні асобы законапаслухмянага патрыёта-гаспадара". А ў наступным лісьце на імя шэфа прэзыдэнцкай адміністрацыі таварыш Іскрык просіць арганізаваць яму сустрэчу з Лукашэнкам, каб "азнаёміць яго з эскізамі памятнага мэдаля ў гонар інаўгурацыі першага прэзыдэнта РБ".

З усёй гэтай дзейнасьці можна было б толькі пасьмяяцца, але рэч у тым, што гэтыя палітычныя забавы дарослых людзей фінансуюцца за кошт бюджэтных грошай міністэрства адукацыі.

**Анатоль МІРСКІ**

# Куды ты вядзеш нас, Сусанін-герой?..

Поўная адсутнасьць стратэгічнай мэты — галоўная рыса рэжыму Лукашэнкі

Паралельна штодзённаму павышэньню цэнаў напаляюцца страсьці ў грамадзтве. Калі б прэзыдэнт паслухаў, як яго характарызуюць у чэргах, то, верагодна, увёў бы ваеннае становішча з камэнданцкай гадзінай і іншымі цікавымі рэчамі. Гаворка нават не аб даверы "усенародна абранаму", ужо можна гаварыць пра нянавісьць, што, згадзіцеся, ненармальна. Тым ня менш, народ нечага чакае, зыходзячы з прынцыпу "надзея памірае апошняй". Многім здаецца: нічога, пацерпім, галоўнае — дасягнуць канчатковай мэты.

На жаль, гэта памылка. Бальшыня палітолягаў, эканамістаў гаварылі раней, паўтараюць цяпер: адміністрацыя Лукашэнкі ня мае і ня мела ніколі канчатковай мэты.

**На гэтую тэму карэспандэнт СВАБОДЫ гутарыць з прафэсарам Андрэем Турам — загадчыкам катэдры эканамічнай тэорыі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўнівэрсітэта.**

## Да гіпэрінфляцыі застаўся маленькі крок

**— Чым можна растлумачыць такое хуткае падзеньне жыцьцёвага ўзроўню за апошнія месяц-два?**

— Зразумела, гэта зьвязана зь інфляцыйнымі працэсамі, якія апошнім часам набылі катастрафічную хуткасьць. Эканоміка — на парозе гіпэрінфляцыі. Яшчэ троху, і яна стане рэльнасьцю. А гэта ня толькі спад вытворчасьці і іншыя наступствы, гэта пераход грамадзтва на новую стадыю, на сапраўды жабрацкае існаваньне.

**— Прычына?**

— Па-першае, сама інфляцыя. Строга кажучы, гэта ня толькі абясцэньваньне грошай. Інфляцыя — своеасаблівы інструмант у эканоміцы, мэханізм пераразьмеркаваньня даходаў. Калі інфляцыя невялікая, гэтак званая *інфляцыя попыту*, то адбываецца пераразьмеркаваньне даходаў ад ніжэйшых слаёў насельніцтва да сярэдніх і вышэйшых. *Інфляцыя прапановы:* пераразьмеркаваньне ідзе ў асноўным да вышэйшай групы, нешматлікай, але ўплывовай. Нарэшце, трэці інфляцыйны этап пачынаецца, калі пераразьмеркаваньне рухаецца ад самых нізкіх, сярэдніх, нават ніжэйшых з вышэйшай групы — толькі і выключна найвышэйшай.

**— Тое, што мы назіраем сёньня?**

— Так. Але самае страшнае пачнецца тады, калі мы будзем мець гіпэрінфляцыю. Тады — пераразьмеркаваньне ўласнасьці. Гэта значыць, суб'екты гаспадараньня будуць праядаць багацьце. Не даходы — багацьце. Гэта мае дачыненьне да ўсяго насельніцтва. Ня толькі юрыдычныя асобы, проста людзі пачынаюць страчваць уласнасьць, якую нажывалі ўсё жыцьцё. І цяпер мы стаім на гэтай мяжы.

Другое. У прынцыпе, інфляцыя — дрэнная рэч, але зь ёю можна мірыцца пры адной умове — павінны ісьці рэформы. Іх няма. Я ня стаў бы вінаваціць прэзыдэнта і ягоную каманду. Але ў яго быў час, ён меў картблянш, выдадзены народам. Па сутнасьці нічога зроблена не было, абсалютна нічога. Між тым, можна і трэба было выпрацаваць стратэгічную лінію: што мы хочам, куды ідзем... Гэта і дасюль невядома, мы паміж небам і зямлёю. Проста працягваецца далейшае падзеньне ў бездань. І ўсе "надзвычайныя праграмы" — ня больш як пажарныя меры, латаньне дзірак. Прычым, зусім непрафэсійнае. Мы бачым элемэнтарную няздольнасьць вырашыць тыя ці іншыя праблемы.

Глыбінная ж прычына інфляцыі — адсутнасьць нават намёку на рэформы. Прыватызацыя не ідзе, структурнай перабудовы эканомікі няма, бюджэт мае фіскальны характар.

**— Іншымі словамі, усё зноў упіраецца ў адсутнасьць мэты, якая ўсіх аб'яднала б...**

— Менавіта так. Бяз гэтага нават самыя разумныя крокі ня маюць сэнсу. Стратэгічную лінію трэба было распрацаваць яшчэ да выбараў прэзыдэнта. Замест гэтага мы назіраем палітычныя гульні. Вось і вынік...

## Жыцьцё адным днём

**— Ці ёсьць унівэрсальны паказьнік, які б ясна сьведчыў: мы ўжо на дне, далей падаць няма куды?**

— Зноў жа, адзін паказьнік — гэта тэмпы інфляцыі. Другі: накапленьне, у нашым выпадку — поўная яго адсутнасьць. У нацыянальным даходзе адсутнічаюць элемэнты накапленьня, няма інвэстыцыяў, няма капітальных укладаньняў. У эканоміцы няма сродкаў, а калі нават і знаходзяцца, то страшэнная інфляцыя іх зьядае.

Увогуле, больш рэальны паказьнік, хоць і ня комплексны, — ступень і норма падзеньня капітальнага будаўніцтва. На абаротныя сродкі грошы яшчэ неяк знаходзяцца, на доўгатэрміновыя інвэстыцыі — ужо не. Можна, канечне, атрымаць кароткачасовыя крэдыты ў банку, але пад шалёны працэнт. На доўгатэрміновыя праекты — толькі пад жорсткім прымусам ураду, а то і прэзыдэнта.

І калі мы ўважліва паглядзім на сёлетні бюджэт, то добра бачна: інвэстыцыяў практычна няма.

## Беларусь выбрала „чыкагскі варыянт"

**— Вы гаварылі пра пераразьмеркаваньне даходаў зьнізу ўверх. У сувязі з гэтым, відаць, працэс крымiналізацыі эканомікі, а значыць і грамадзтва, непазьбежны?**

— У нейкай ступені — так. Мая асабістая думка: калі мы не змаглі стварыць цывілізаваны мэханізм рэфармаваньня, увесьці яго ў нейкія заканадаўчыя межы і тым самым зрабіць працэс першапачатковага накапленьня капіталу больш-менш законным, то — гэта адбудзецца без удзелу дзяржавы. Стыхійна, злачынна, з забойствамі, афэрамі і г.д., — але адбудзецца.

Мы ня можам гэтага зрабіць — зробіць за нас эканоміка. І вось якраз гіпэрінфляцыя і ёсьць інструмант пераразьмеркаваньня даходаў — накапленьня капіталу.

Па сутнасьці, усюды ў сьвеце накапленьне капіталу мела крымінальны характар. Калі дзяржава ня можа ці ня хоча наводзіць хоць нейкі парадак, то эканоміка набывае рысы "чыкагскага варыянту" накапленьня капіталу. Такая аб'ектыўная заканамернасьць. Проста я хачу падкрэсьліць: была невялікая магчымасьць накіраваць гэты працэс у цывілізаванае рэчышча. Яе ня выкарысталі.

Пройдзе час, крымінальныя капіталы абавязкова легалізуюцца, гэта таксама аб'ектыўна. Інакш кажучы, эканоміка краіны атрымлівае адзін за адным моцныя ўдары, а тым часам нехта на гэтым нажываецца.

**— Хто, я думаю, пытаньне дастаткова рытарычнае. Тыя, хто набліжаны да вышэйшай улады, хто ведае ўсе сакрэты прэзыдэнта да таго, як яны стануць указамі і распараджэньнямі. Тым ня менш, я з вамі згодны: тут нічога ня зьменіш.**

## USD: вышэй, вышэй і вышэй...

**— Volens nolens, мы ацэньваем сваё жыцьцё праз прызму даляра. Цяперашняя стабілізацыя USD (яна, канечне, часовая) хутка зьменіцца бурным ростам. Калі ласка, патлумачце прычыны, і ці валодае хоць у нейкай ступені сытуацыяй Нацыянальны банк?**

— Я бачу тры асноўныя фактары цяперашняга стану курсу даляра. Першае. Канец года, пачатак новага — гэта заўсёды падбіваньне балянсу, гадавая справаздача ў банках ды іншых сыстэмах гаспадараньня. Зьніжаецца спраўная актыўнасьць, няма патрэбы ў крэдытных рэсурсах... Скажам так, эканоміка ў стане раскачкі.

Другое. Недзе са сьнежня мы прыпынілі выплаты Расеі за энэрганосьбіты. Я маю на ўвазе тыя пастаўкі, якія не абумоўленыя дзяржаўнымі дамовамі і іншымі пагадненьнямі. У першай дэкадзе лютага пастаўкі адновяцца, трэба будзе плаціць. Гэта, дарэчы, абумовіць новы ўзьлёт цэнаў, бо нафтапрадукты трэба нечым пакрываць, а пакрываць асабліва няма чым.

Нарэшце, трэцяе. Міністар сельскай гаспадаркі просіць на пасяўную прыкладна 1,5—2 трыльёны расейскіх рублёў. Адпаведна — рост курсу даляра.

Што ж да Нацыянальнага банку і асабіста сп.Багданкевіча... Ну як ён можа кантраляваць сытуацыю пры поўнай адсутнасьці рэформаў у эканоміцы? Ён выконвае ролю пажарніка: там гарыць — тушыць, тут задыміла — тое самае. Гэта не віна, а бяда Нацбанку, што ён не праводзіць самастойнай палітыкі, а толькі абслугоўвае тых, хто пры ўладзе...

На курс даляра ўплывае таксама і падзеньне расейскага рубля. Як толькі пачнуцца выплаты за энэрганосьбіты, мы гэта вельмі балюча адчуем.

**— Наколькі небясьпечныя для нас спробы расейскага бізнэсу ўкараніцца на Беларусі?**

— Што значыць — небясьпечныя? Праблема ня ў гэтым. Я ня бачу ніякай небясьпекі для дзяржавы, калі замежныя фірмы працуюць на яе тэрыторыі. Праўда, я аддаў бы перавагу заходнім. Гэта больш сучасныя тэхналёгіі і культура вытворчасьці, гэта ўрэшце прымусіць ствараць больш разьвітае, сучаснае заканадаўства.

Але трэба ўлічваць нашае геапалітычнае становішча. Мы маглі б ссаць, як гаворыцца, не адну матку. І на Захадзе, і на Усходзе, і на Поўдні, і на Поўначы. Важна знайсьці сваё месца на гэтых рынках.

**— Ваш прагноз на гэты год.**

— У нашай сытуацыі цяжка рабіць якія-небудзь прагнозы. Мы пастаянна жывем у шоку. Мы гатовыя да "шокавай тэрапіі" як ніколі. Наколькі магу меркаваць, агульны настрой такі: мы гатовыя пацярпець яшчэ, але мы хочам ведаць, дзеля чаго церпім, які будзе вынік.

Спадзяюся, што новы парлямант будзе больш кампэтэнтным, здольным уплываць на прэзыдэнта і ягоную каманду. А калі трэба, то разьбярэцца і зь іхнай кампэтэнтнасьцю.

Відавочна, што год будзе цяжкі, бадай, цяжэйшы за ўсе апошнія. Але я ўпэўнены, што наступны стане пераломным. Мы пачнем выпаўзаць зь ямы.

**Гутарыў Андрэй СЯРЖАН**

*Паводле зьвестак Дзяржкамстату Беларусі, у 1994 г. валавы ўнутраны прадукт скараціўся на 20% у параўнаньні з папярэднім годам. Практычна па ўсіх відах прадукцыі назіраецца спад. У якасьці ілюстрацыі друкуем статыстычную даведку.*

**Вытворчасьць асноўных відаў прамысловай прадукцыі ў Беларусі за 1994 год (у працэнтах да 1993 г.).**

| | |
|---|---|
| Бэнзын аўтамабільны | 102,9 |
| Мінэральныя ўгнаеньні | 118,4 |
| Хімічныя валокны і ніткі | 74,2 |
| Мэталярэзныя варштаты | 61,0 |
| Грузавыя аўтамабілі | 69,1 |
| Трактары | 52,1 |
| Кармаўборачныя камбайны | 33,2 |
| Папера | 38,9 |
| Піламатар'ялы | 79,4 |
| Цэмэнт | 76,1 |
| Шыфэр | 45,3 |
| Тканіны | 53,1 |
| Дываны і дывановыя вырабы | 60,2 |
| Панчошныя і шкарпэтачныя вырабы | 55,0 |
| у тым ліку калготкі дзіцячыя | 47,5 |
| Трыкатажныя вырабы | 56,9 |
| у тым ліку для дзяцей | 68,4 |
| Скураны абутак | 77,0 |
| у тым ліку дзіцячы | 69,1 |
| Лядоўні і маразільнікі бытавыя | 100,6 |
| Пральныя машыны | 108,2 |
| Фотаапараты | 25,8 |
| Магнітафоны | 55,2 |
| Радыёпрыёмнікі | 70,9 |
| Каляровыя тэлевізары | 59,4 |
| Гадзіньнікі бытавыя | 84,9 |
| Матацыклы | 42,7 |
| Ровары | 63,2 |
| Мяса | 83,4 |
| Масла сьметанковае | 84,5 |
| Каўбасы | 82,3 |
| Тлустыя сыры | 96,9 |
| Цэльнамалочная прадукцыя | 91,8 |
| Кансэрвы | 79,2 |
| Цукар | 89,3 |
| Алей | 131,0 |
| Мука | 87,3 |
| Крупы | 66,4 |
| Кандытарскія вырабы | 87,1 |
| Хлеб і хлебабулачныя вырабы | 88,2 |
| Макаронныя вырабы | 76,9 |
| Гарэлка і гарэлачныя вырабы | 100,5 |
| Піва | 69,4 |
| Мыла гаспадарчае | 64,9 |
| Мыла туалетнае | 67,4 |

## Хуткага паляпшэньня не прадбачыцца

**На думку заходніх эканамістаў, станоўчыя вынікі рэформаў на Беларусі зьявяцца ня хутка.**

Аналітыкі часопіса *Economist Intelligence Unit* пішуць, што, хоць урад Беларусі паставіў мэту зьнізіць інфляцыю да 5% на месяц у сярэдзіне 1995 г. і да 1% у канцы года, яе дасягненьне выклікае вялікі сумнеў. Паводле іхных прагнозаў, беларускі рубель скоціцца да ўзроўню 30—40 тысяч за 1 даляр ЗША, і толькі тады можа настаць пэўная стабілізацыя.

Часопіс прагназуе падзеньне аб'ёму нацыянальнага прадукту на 7—9% у гэтым годзе, а першыя прыкметы паляпшэньня сытуацыі зьявяцца ў канцы 1996 г. пры ўмове, што рэформы будуць працягвацца. На сёньняшні дзень толькі трэцяя частка дарослага насельніцтва краіны атрымала прыватызацыйныя чэкі "Маёмасьць". Бальшыня прадалі іх за грошы (каля 8-мі цэнтаў за адзін ваўчар). Да пачатку 1995 г. прыватызаваныя толькі 73 дзяржаўныя прадпрыемствы — каля 3% агульнай колькасьці. Захад пакуль вельмі мала цікавіцца працэсамі прыватызацыі ў Беларусі і выхадам на беларускі рынак.

Часопіс адзначае, што галоўныя пытаньні, якія сёньня стаяць перад краінай, як і раней, у большай ступені палітычныя, чым эканамічныя. Пасьля выбараў у траўні прэзыдэнту Лукашэнку давядзецца працаваць з новым парлямантам. І калі прэзыдэнт і парлямант будуць мець дастаткова моцную палітычную волю, то рэформы могуць прывесьці да патрэбных вынікаў. Але нават пры самым спрыяльным разьвіцьці падзеяў на гэта спатрэбіцца вельмі шмат часу, — піша часопіс *Economist Intelligence Unit*.

*СІМ*

## Беспрацоўных больш за 100 тысячаў

**На канец мінулага года ў Беларусі афіцыйны статус беспрацоўнага мелі 101,2 тысячы чалавек.**

Гэта складае 2,1% эканамічна актыўнага насельніцтва. Што датычыць прапановаў працоўных месцаў, то ў цэлым па краіне на адну вакансію прэтэндавала больш за 5 беспрацоўных.

Па самых сьціплых прагнозах, у 1995 г. у Дзяржаўную службу занятасьці зьвернецца па дапамогу 340 тыс. чалавек. Аднак дзяржава зможа дапамагчы працаўладкавацца толькі 110 тысячам і накіраваць на прафэсійную перападрыхтоўку з выплатай стыпэндыі на пэрыяд навучаньня яшчэ 29 тысяч чалавек. Астатніх (паводле ацэнак, у Беларусі да канца года будзе каля 191 тыс. беспрацоўных, або 3% працаздольнага насельніцтва) мяркуецца матарыяльна падтрымаць шляхам выплаты дапамогі па беспрацоўі. Такія дапамогі летась атрымлівалі 52,2 тыс. чалавек, ці 51,6% ад агульнай колькасьці беспрацоўных.

*РІД*

# Гальштук Лукашэнкі

### Ну тактык, ну стратэг!

Прозьвішча Лукашэнкі на слыху ўсяго толькі год, а якую галавакружную кар'еру зрабіў! Як кажуць расейцы — "из грязи да в князи". Чым жа запомніўся Лукашэнка беларускім абываталям і як зьмяняўся ягоны імідж на працягу гэтага часу?

Пасьля свайго антыкарупцыйнага дакладу Лукашэнка запомніўся самазванай паездкай у Маскву і лямантам у расейскай Думе. Потым быў славуты замах на "галоўнага антыкарупцыянэра". Далей запомнілася, што Лукашэнка, счапіўшыся за грудкі, пашкодзіў мундзір міліцыянту і ўварваўся ў свой апячатаны кабінэт у Вярхоўным Савеце. Вось такія "гераічныя" учынкі.

Але трэба аддаць належнае Лукашэнку, бо змагацца з Кебічам яму было надзвычай цяжка, бо яны мелі адну мэту. Каб, да прыкладу, Лукашэнка абяцаў усім сэрвілат, а Кебіч усяго толькі вараную каўбасу, дык іхныя шанцы былі б няроўныя. А так абодва хацелі злучыць нас з Расеяй у адзіную зону — рублёвую, мытную і г.д. Дагэтуль цяжка ўцяміць: чым жа перамог Лукашэнка. Тлумачэньне вынікае толькі адзінае — напорыстасьцю, глоткай. Як вядома, найлепшая абарона — гэта наступ. Вось Лукашэнка гэта якраз і рабіў. Выступаючы тады перад народам, ён часта гаварыў абы што. Але ж і публіка яго слухала адпаведная.

### Зьмена пінжакоў

Партрэтная галерэя сучасных беларускіх палітыкаў пачынаецца, безумоўна, зь Дземянцея. Твараў партыйных босаў, якія кіравалі да яго, бальшыня народу ня памятае. Хіба толькі П.Машэрава, але гэта проста запамінальны партрэт зь першых старонак газэт. А вось Дземянцей на тэлеэкране быў як на далоні, зь ягоным вясковым характарам і недарэчнай трасянкай. Шушкевіч запомніўся сваёй бесхрыбетнасьцю і словамі "згода" і "рахманы". Кебіч таксама вельмі запамінальны чалавек, хоць бы ўжо сваімі вырачанымі вачыма. І Грыб вылучаецца мітусьлівымі, несамавітымі паводзінамі і мімікай.

Настала чарга Лукашэнкі. На арэну змаганьня за прэзыдэнцкае крэсла ён выходзіў то, як гаварылі, у пінжаку Ціцянкова (сьветлым у дробную клетачку), то пры гальштуку Ганчара (у белую і шэрую гарызантальныя палоскі). На выступах з гэтым гальштукам яны зьяўляліся па чарзе, але ня думаю, што Ганчар мог бы пачапіць ня свой, а Лукашэнкаў гальштук.

Але вось ужо Рыгоравіч зьяўляецца ў сваім першым прэзыдэнцкім строі — вялікім, мешкаватым, з двума шэрагамі гузікаў на пінжаку. Чужыя пінжак і гальштук атрымалі адстаўку. Потым у Рыгоравіча зьяўляюцца яшчэ два прэзыдэнцкія гарнітуры, сьветлы і цямнейшы. Новыя строі падагнаныя паводле паставы, і прэзыдэнт пачуваецца ў іх ужо даволі самавіта. Увайшоў, як кажуць, у ролю.

### У новым амплуа

Што кідаецца ў вочы ў публічных паводзінах Лукашэнкі? Ягоная жорсткасьць, безапэляцыйнасьць, накіраванасьць на канфлікт, пошук ворагаў. Яму заўсёды ўсе вінаватыя. Вельмі дарэчы прыгадаць дзеньнікавы запіс Альбэра Камю: "Імкненьне заўсёды мець рацыю — прыкмета вульгарнага розуму".

Па сутнасьці, мы бачым два твары Лукашэнкі. Або ён разьзлаваны, гняўлівы, агрэсіўны, не стрыманы ў выказваньнях, у лепшым разе — крыху фанабэрлівы з адценьнем пагрозы. Гэта, па ўсім відаць, сапраўднае аблічча Лукашэнкі, прызначанае для ўнутрыдзяржаўнага, "хатняга" ужытку. У такім амплуа ён выступае на публіцы ў якасьці "адзінага ў полі воіна", астатнія ў яго дэзэртыры або ўвогуле ворагі, якія ўстаўляюць палкі ў колы і ўсяляк шкодзяць. Прыблізна так ён размаўляе і з "ідэалягічнымі праціўнікамі" з Захаду...

Але ў Лукашэнкі ёсьць яшчэ адна маска, якой ён карыстаецца для вонкавых патрэбаў і якая таксама дакладна перадае ягоную нутраную сутнасьць. Я маю на ўвазе няшчырую, лёкайскую ўсьмешку, што зьяўляецца на твары, калі ён размаўляе зь Ельцыным ды іншымі "старшымі братамі". Мне, як грамадзяніну гэтай краіны, бывае сорамна і гідка. Усьмешка павінна быць, прынамсі, натуральнай, і ўсьміхацца, калі ты сам сябе паважаеш, трэба ўмець аднолькава і Ельцыну, і Клінтану.

### Не бярыся, калі ня ўмееш

Днямі Лукашэнка выступаў перад прадстаўнікамі вэтэранаў. Ён ім сказаў, што хоць і атэіст, але гатовы маліцца Богу, абы толькі стала лепей жыць... Сам таго ня ведаючы, Рыгоравіч напоўніў канкрэтным жыцьцёвым сэнсам вядомую прыпавесьць пра тое, што Бог надзяліў беларусаў кепскім начальствам.

**Міхал СТАНЕЎСКІ**

---

**З 5 па 7 лютага** ў Менску знаходзілася дэлегацыя Рады Эўропы на чале з дырэктарам палітычнага дэпартаманту гэтай міжнароднай арганізацыі Хансам Пэтэрам Фурэ.

Прадстаўнікі Рады Эўропы вывучалі магчымасьць распрацоўкі спэцыяльнай праграмы супрацоўніцтва зь Беларусяй. Гэтая праграма прадугледжвае, у прыватнасьці, усеабдымную рэформу нашага заканадаўства з мэтаю набліжэньня яго да дэмакратычных стандартаў. Бо, вядома, зь недэмакратычнымі законамі ў Раду Эўропы нас ніколі ня прымуць.

**Згуртаваньне беларусаў сьвету** "Бацькаўшчына" зьвярнулася ў Кабінэт міністраў Беларусі зь лістом, у якім выказвае занепакоенасьць лёсам нашых землякоў, што апынуліся ў пекле вайны ў Чачні.

"Нам здаецца, што амбасада Рэспублікі Беларусь у Маскве павінна ўсе свае намаганьні накіраваць на тое, каб абараніць правы беларусаў на недатыкальнасьць маёмасьці, на здароўе, урэшце — на жыцьцё".

**Пікет актывістаў БНФ** сабраў каля 500 подпісаў жыхароў Горадні пад заявай да прэзыдэнта, сьпікера парляманту і Генэральнага пракурора.

У ёй выказваецца пратэст супраць заклікy маскоўскіх ваяжораў Козырава і Рыбкіна накіраваць беларусаў у раёны баявых дзеяньняў у Чачні і Таджыкістане. Асабліва ахвотна падпісвалі заяву жанчыны і моладзь.

---

*Пад Віцебскам можа здарыцца трагедыя*

# Раса сьмерці

Так называюць грымучую ртуць, якая выдзяляецца з выбуховых рэчываў, калі міны, снарады, авіяцыйныя бомбы доўга ляжаць у зямлі ці пад адкрытым небам. "Раса сьмерці" можа доўгі час ніяк не праяўляць сябе, але ўпэўнена прагназаваць нельга нічога. Нават ад найслабейшага сатрасеньня або нават дотыку можа пачацца хімічная рэакцыя, якая заканчваецца амаль што імгненным выбухам. У сапэрскай практыцы такіх выпадкаў безьліч. Апошняя, нерасьсьледаваная да гэтага часу трагедыя адбылася 14 траўня 1994 г. на складах Ціхаакіянскага флёту паблізу пасёлка Наванежына. Губэрнатар Прыморскага краю Яўген Наздраценка сьцьвярджае, што, па магутнасьці выбух на складах ВПС ЦАФ быў роўны выбуху атамнай бомбы. Уладзівасток, які знаходзіцца за 100 км ад Наванежына, захістаўся, нібы ад землятрусу: дрыжалі шыбы, ходарам хадзілі падлогі. Пасёлак Наванежына амаль дашчэнту быў зруйнаваны. А яшчэ раней выбухі прагрымелі на адным арсэнале ў самім Уладзівастоку.

Нешта падобнае можа здарыцца і ў Беларусі. Яшчэ ўлетку мінулага года Віцебская ваенная пракуратура выявіла, што на цэнтральнай базе Ваенна-паветраных сілаў Беларусі, якая знаходзіцца за 37 км ад Віцебска, склалася вельмі трывожная сытуацыя.

Тут у сховішчах і на адкрытых пляцоўках знаходзіцца 3520 вагонаў авіяцыйных сродкаў паражэньня пры штатнай умяшчальнасьці толькі 2600 вагонаў. Перагрузка відавочная. Але падвоз і складаваньне боепрыпасаў працягваецца, і цяпер яны захоўваюцца на рампах і неабвалаваных пляцоўках. З 40 наяўных сховішчаў толькі 19 прыдатныя для захоўваньня боепрыпасаў. Але гэта, на думку пракурораў, толькі кветачкі. Пастаянны недахоп сховішчаў прывёў да таго, што на адкрытых пляцоўках стаяць 1200 вагонаў авіяцыйных бомбаў, якія павінны знаходзіцца толькі ў памяшканьнях з фіксаваным тэмпэратурным рэжымам. Аднак і тыя сховішчы, што ёсьць, у вельмі кепскім стане. Напрыклад, на двух складах прагніў і праваліўся дах.

Але самае галоўнае, што сярод усяго гэтага сьмяротнага нагрувашчаньня авіяцыйных бомбаў рознай магутнасьці і іншых боепрыпасаў знаходзіцца дэтанатар, які можа спрацаваць кожную хвіліну, кожную сэкунду, імгненьне. Гэта — авіяцыйныя боепрыпасы так званай 5-й катэгорыі. Усяго іх налічваецца 291 вагон.

Ёсьць там і своеасаблівы "сюрпрыз" — 40 вагонаў яшчэ сталінскіх авіябомбаў (1953 г. выпуску), якія пяць гадоў таму трэба было зьнішчыць. Але высьветлілася, што магчымасьці спэцыялізаванай базы не дазваляюць ажыцьцявіць утылізацыю гэтых боепрыпасаў. А тое, што скрыні, у якіх захоўваюцца авіябомбы, даўно спарахнелі і разваньваюцца, нікога не хвалюе. Нікога, хоць блізка Віцебск і зусім побач — райцэнтар Гарадок з насельніцтвам 40 тыс. чалавек. Няцяжка ўявіць маштабы трагедыі, калі выбух усё ж адбудзецца.

Варта згадаць і пра ахову базы. Пракурорская праверка дала вельмі мяккую фармулёўку — "выклікае занепакоенасьць". Таму нам застаецца толькі варажыць: узарвецца ўсё гэтае дабро само па сабе ці нехта дапаможа? А калі канкрэтна, то з 40 сховішчаў, якія знаходзяцца на тэхнічнай тэрыторыі, то... 34 абсталяваныя аўтаматычнай сыгналізацыяй. У 1991 г. кантроль за тэрыторыяй ажыцьцяўлялі 11 тэлекамэраў, але на час праверкі працавала толькі 4. Для капітальнага рамонту ўнутранай агароджы тэрыторыі патрэбна каля 30 км калючага дроту, але і яго няма. Здараецца, што варта нясе службу, не мяняючыся, па 10—15 сутак.

Такім чынам, на падставе матар'ялаў праверкі віцебскі міжгарнізонны пракурор вынес прадстаўленьне з даволі доўгай назвай: "Аб парушэньні заканадаўства, якое рэглямантуе захаваньне зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў". Гэты дакумант 25 ліпеня 1994 г. лёг на стол галоўнакамандуючага ВПС Беларусі генэрал-лейтэнанта С.Сядова. Але з адказам у штабе ВПС не сьпяшаюцца і да сёньняшняга дня. Хоць, як паведамілі ў Беларускай ваеннай пракуратуры, адзін намесьнік Генэральнага пракурора нават хадзіў па гэтай справе да самога прэзыдэнта, але выніку ніякага.

Блізка ці далёка да трагедыі — сказаць дакладна ніхто ня можа, але схаваць праблему немагчыма, яе трэба тэрмінова вырашаць.

**Фёдар ДАНІЛОВІЧ**

---

# Радзівілу Чорнаму -- 480 гадоў

**У менскім Доме літаратара адбылася навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная 480-м угодкам выдатнага дзяржаўнага дзеяча Беларусі князя Мікалая Радзівіла Чорнага.**

Вялікі канцлер Княства Літоўскага і ваявода Віленскі Радзівіл Чорны фактычна кіраваў беларуска-літоўскім гаспадарствам. Асноўнаю ягонай мэтаю было ўмацаваньне дзяржаўнага сувэрэнітэту ў даволі неспрыяльных умовах. На некалькіх соймах князь выступаў супраць уваходжаньня нашай дзяржавы ў склад Кароны Польскай. Дзякуючы ягонай настойлівасьці ўдалося на некалькі гадоў адцягнуць заключэньне дзяржаўнай уніі з Польшчай. Пасьлядоўная незалежніцкая пазыцыя Радзівіла Чорнага прывяла да найвышэйшага росквіту краіны, а грамадскае жыцьцё ў ёй абапіралася на нацыянальнае права.

Гісторыкі адзначаюць значныя посьпехі Радзівіла Чорнага як дыплямата. У выніку ягоных перамоваў у Вене Габсбургскі двор спыніў падтрымку маскоўскага цара Івана IV. Быў прадухілены саюз паміж Германскай імпэрыяй і Маскоўскім царствам. Зь ініцыятывы Радзівіла Чорнага была забясьпечаная дапамога польскага войска на выпадак маскоўскай агрэсіі. Балтыйская палітыка Радзівіла Чорнага мела на мэце далучэньне да нашай дзяржавы Лівоніі ў якасьці аўтаноміі. У 1557 годзе была заключаная дамова зь Лівонскім магістрам аб сумеснай абароне ад Масквы.

У 1562 годзе расейскія войскі ўварваліся на тэрыторыю Беларусі, разрабаваўшы ваколіцы Віцебска, Воршы, Шклова і зьнішчыўшы безьліч людзей. З гэтага часу Івана IV сталі называць у беларускім народзе Жахлівым, а ў дакумантах "маскоўскім злодзеем". Тады, адчуваючы рэальную пагрозу незалежнасьці, шляхта прапанавала новы праект дзяржаўнай уніі з Польшчай.

Беларускія грамадзкія арганізацыі зьвярнуліся з прапановай да ўраду аб'явіць 1995 г. годам Мікалая Радзівіла Чорнага. Мяркуецца закласьці помнікі князю ў Нясьвіжы і Менску.

На жаль, у Слуцку нічога ня хочуць чуць пра Радзівіла Чорнага. Па невядомых прычынах та... адмянілі сустрэчу гісторыкаў са школьнікамі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

---

*Ліст у рэдакцыю*

# Прэзыдэнту закон ня пісаны?

Іншы раз даводзіцца паглядзець перадачу "Што? Дзе? Калі?". Там эрудыты за вялікія грошы бяруцца адказваць на нялёгкія часам пытаньні. Але на пытаньне, якое зьбіраецца паставіць нашаму грамадзтву прэзыдэнт А.Лукашэнка, далібог, самы разумны ў сьвеце эрудыт ні за якія грошы не адкажа.

Вось прыклад. Вядома, што шаноўны Аляксандар Рыгоравіч вырашыў "инициировать" правядзеньне рэфэрэндуму па пытаньні зьмены дзяржаўнае сымболікі. Разгорнем Закон Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным гербе (прыняты 19.09.91) і Палажэньне аб дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь (прынятае 10.12.91), дзе пазначана: **"Дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь зьяўляецца** *старажытны беларускі герб...* **які... адлюстроўвае гістарычны шлях беларускага народу"**. Выходзіць, што гэта ня толькі сымболь сёньняшняга дня, але і гістарычная спадчына!

А цяпер возьмем Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, дзе ў артыкулах 15 і 54 падкрэсьліваецца, што **"дзяржава адказная за захаваньне гісторыка-культурнай спадчыны"**, **"кожны абавязаны берагчы гісторыка-культурную спадчыну"**.

Дык ці то наш герб не належыць да гісторыка-культурнай спадчыны, ці то для шаноўнага Аляксандра Рыгоравіча закону няма?

**Лявон КАЛЯДЗІНСКІ,**
**супрацоўнік Інстытуту гісторыі АН Беларусі**

---

*Увечары 31 студзеня ў аўтамашыне "таксі" быў пакінуты скураны кейс. У ім было пасьведчаньне Саюзу пісьменьнікаў СССР на імя А.Сыса і сіні нататнік зь вершамі і пачаткам паэмы "Зянон. Беларуская пастараль".*

*Прашу вярнуць нататнік у Дом літаратара (вул. Фрунзе, 5) або ў рэдакцыю СВАБОДЫ.*

**Анатоль СЫС**

